# зямлі, і ніякая віхура не выдзьме...»

гарэлачным перагарам, калі людзі азлобленыя беднасцю і жыццёвымі паразамі, гэта альбо прыхільнікі Лукашэнкі, альбо расчараваныя ва ўсім і ўсіх маргіналы.

І яшчэ. Натуральна, я ўсюды і заўсёды гавару па-беларуску (выключэнне з іншаземцамі). Ні ходзячы па кватэрах, ні ў пікетах я не меў з гэтай нагоды праблемы паразумення. Няма такой праблемы ў Беларусі, чуеце, "паліттэхнолагі"? Мы стаялі пад бел-чырвона-белым сцягам каля універсама "Паўночны" ў раёне "Зялёны Луг", сабраўся ладны тлум людзей, гаварылі пра рэферэндум, эканоміку, пенсіі. Падышла жанчына, кажа: "Вы себе вредите. Вы разговариваете с людьми на разных языках в прямом смысле". Я нават не паспеў раскрыць рот, бо самыя розныя людзі вакол мяне наўзахапы аспрэчылі: так, гаворым па-руску, бо такая была і ёсць палітыка дзяржавы, але беларуская — наша родная мова, мы яе любім і паважаем тых, хто на ёй гаворыць.

Калі мы разумна і прафесійна пачнем вяртаць прэстыж беларускай мовы з садочка, са школы, з падтрымкі дзяржавай беларускамоўнай прэсы, то ніякіх канфліктаў на гэтай глебе як не было, так і не будзе. Сёння ж моўныя канфлікты правакуюцца living рознымі палітыканамі.

**— Вядома, што Вы падтрымліваеце грамадскую ініцыятыву "Пяцёрка плюс". У яе ўваходзяць сябры розных партый і беспартыйныя грамадзяне, якія падзяляюць платформу "Пяць крокаў да лепшага жыцця". А вось ці рэальная кансалідацыя Партыі БНФ з КХП БНФ?**

— Няма такіх рэчаў, наконт якіх адказныя грамадзяне краіны не маглі б дамовіцца, калі яны думаюць пра дабро краіны. Кампраміс можна знайсці пры ўмове адкрытага і сумленнага абгаворвання нават спрэчных праблем. Мы ўсе жывем на гэтай зямлі, не збіраемся адсюль з'язджаць. Нам баліць, каб гэтая зямля была добрая для ўсіх людзей (калі кіруемся не шкурнымі інтарэсамі, а ідэямі). І мы хацелі б, каб людзі былі сумленныя, жылі заможна, каб ніхто нікога не забіваў, каб нашу краіну паважалі. Гэта самы лепшы спосаб, каб пачаць дыялог. Другі пункт для дыялогу — ці ёсць каштоўнасці, што нас яднаюць? Гэта дэмакратыя, гэта парламентарызм. І гэта незалежнасць нашай краіны, бо як няма незалежнасці, дык няма сапраўднага народаўладдзя. А пра астатняе будзем спрачацца ў будучым дэмакратычным парламенце. Мы дамовіліся адкласці спрэчкі на той час, калі зможам апеляваць не толькі да ўласных перакананняў, а да падтрымкі з боку народа, які нам дэлегуе адстойваць такі, а не іншы шлях развіцця. У пэўным сэнсе "Пяцёрка плюс" ёсць правобраз будучага дэмакратычнага парламента свабоднай Беларусі.

З 1999 года ёсць дзве розныя партыі — Партыя БНФ і КХП БНФ. Змены, якія адбыліся ў 1999 годзе, — не проста кадравыя перастаноўкі. Гэта быў стратэгічны выбар. Дэмакратычныя колы ў Народным Фронце разумелі, што асноўная незалежніцкая сіла краіны павінна пераўтварыцца ў сучасную партыю, здольную абапірацца на прафесіяналізм, меркаванні экспертаў, сучасныя палітычныя тэхналогіі, на шчыльнае супрацоўніцтва з мас-медыя, на кааліцыйнасць. Наш прынцып: "Хто не супраць нас і хто падзяляе нашыя асноўныя каштоўнасці — той можа быць з намі!" Перад 1999 годам БНФ апынуўся перад прамой пагрозай пераўтварэння ў секту, у клуб кухонных пакрыўджаных, якія не любілі не толькі Лукашэнку, але і ўсіх грамадска-палітычных актывістаў толькі таму, што яны арганізацыйна не з імі. З гэтым трэба было канчаць, калі мы не хацелі поўнай маргіналізацыі нацыянальна-незалежніцкіх сіл. Думаю, мы здолелі зрабіць паварот да будучыні. Мы пацвердзілі, што Партыя БНФ — рэальная палітычная структура.

Цяпер, падчас выбарчай кампаніі, адбываюцца вельмі важныя працэсы. Людзі ў кожным кутку Беларусі, якія падзяляюць незалежніцкія і дэмакратычныя ідэі, атаясамліваюць іх з Партыяй БНФ і яе мясцовымі прадстаўнікамі як сваімі лакальнымі лідэрамі. Без гэтага палітычная арганізацыя не можа існаваць. Аднымі факсамі і газетнымі зваротамі палітычная сіла не можа жывіцца ў прынцыпе. Гэта тады проста меркаванні аднаго асобна ўзятага філосафа. На жаль, спадар Пазьняк абраў канфрантацыйную танальнасць пераконвання людзей у сваёй рацыі, што, на маю думку, тупіковы шлях. Жывучы ў эміграцыі, цяжка адчуць эмацыйныя і сацыяльныя настроі людзей. Беларусь мяняецца штодзень. Па-другое, калі дбаць пра адзінства нацыянальна-дэмакратычных сіл, трэба весці дыялог з усімі, хто падзяляе каштоўнасці незалежнасці Беларусі, а спадар Пазьняк, на жаль, ярлыкуе абразамі ўсіх тых, хто не з ім. І гэта ёсць прынцыповае нашае адрозненне: мы працягваем руку; спадар Пазьняк, наадварот, руку хавае ў кішэні.

**— Як Вы патлумачыце тое, што ўлады зарэгістравалі даволі шмат дэмакратычных кандыдатаў?**

— Пачну з таго, што не зарэгістравалі нашых моцных і перспектыўных дэпутатаў мясцовых саветаў Сяргея Антусевіча з Гродна, Аляксандра Агеева з Магілёва, Івана Шэгу са Слоніма. Яшчэ шэраг рэальных кандыдатаў прымусілі адмовіцца ад балатавання (не называю імёнаў: людзі асцерагаюцца за сваіх блізкіх, калег, сваю працу).

Нестыкоўка рашэнняў акруговых і Цэнтральнай выбарчых камісій, мітусня афіцыйных СМІ вакол нашых выступаў (даваць — не даваць, выразаць — не выразаць, як гэта было ў газеце "Рэспубліка" ці на Гродзенскім тэлебачанні) паказвае, што ўлада пайшла ўразнос. Няма яснай тактыкі, альбо яна не даведзеная да ўсіх вертыкальных структур. Спачатку зверху загадалі: душыць! Потым перазагадалі: душыць, але недадушваць! Для мясцовых чыноўнікаў гэта вельмі складаная задача. Яны ж прывыклі, што іх караюць за "недобдение"! Пры такім бязладдзі цяжка ім будзе фальсіфікаваць "элегантна", будуць рабіць гэта як слон у посуднай краме.

Чаму нас усё ж зарэгістравалі? Улады ведаюць, што нас падтрымлівае вялікая колькасць грамадзян. Каб дыскрэдытаваць дэмакратычных кандыдатаў, іх не здымаюць, але "малююць" ганебна нізкі працэнт галасоў (як на прэзідэнцкіх выбарах альбо шмат дзе на мясцовых). Яшчэ ўладам хочацца легітымізаваць рэферэндум: маўляў, калі ў выбарах удзельнічаюць дэмакратычныя партыі, значыць, яны a priori прызнаюць выбарчую сістэму свабоднай і справядлівай. Нічога падобнага! Ужо цяпер і Еўрапейскі Саюз, і іншыя міжнародныя асацыяцыі выказаліся, што ў такіх умовах ні выбары, ні рэферэндум не будуць адлюстраваннем волі беларускага народа.

**— Шмат у каго вялікія сумненні, што хоць б нехта з апазіцыі ўсё ж трапіць у парламент. Што Вы будзеце рабіць, калі Вашыя надзеі на дэпутацтва не спраўдзяцца, — тое, што і апошнія восем гадоў?**

— За апошнія гады якасць беларускіх дэмакратычных незалежніцкіх сіл стала змяняцца. З рамантыкаў, якія спадзяваліся вырашыць усе шматстайныя праблемы нашай краіны чароўным прутком газетнага артыкула ці кідкага лозунгу, мы сталі рэалістамі, якія трывала стаяць на беларускай зямлі, не збіраюцца яе пакідаць, чэрпаюць сілы з народнай падтрымкі. Мы пайшлі на ўдзел у выбарчай кампаніі, выдатна разумеючы, што паняцце "выбары" ў міжнароднай практыцы мае зусім іншае значэнне. Наша мэта — абаперціся на рэальную падтрымку большасці, стаць лідэрамі грамадства. Супраць Лукашэнкі большасць народа: гэта бясспрэчна. Але яна не ведае, што ёсць пазітыўная альтэрнатыва, што Партыя БНФ сур'ёзна абноўленая, не ведае, якая ў нас праграма, не ведае, што дэмакратычныя сілы згуртаваліся вакол платформы "Пяць крокаў да лепшага жыцця". Стаўшы лідэрамі думкі, мы зробім прарыў у грамадскай свядомасці, а гэта вельмі важны фактар.

**— Раскажыце пра Вашую працу, Вашыя карані.**

— Часопіс "Спадчына", дзе я працую намеснікам галоўнага рэдактара, — першы "тоўсты" часопіс, які выйшаў у пачатку 90-х гадоў з-пад дзяржаўнай апекі. Ганаруся тым, што "Спадчына" выжыла ў вельмі неспрыяльных умовах для недзяржаўных выданняў наогул і для беларускамоўных культурна-адукацыйных перыёдыкаў у прыватнасці, сабрала вакол сябе знаных і таленавітых аўтараў. Праўда, крызіс яшчэ дарэшты не пераадолены: у 2003 годзе выйшаў толькі адзін нумар "Спадчыны", але сёлета часопіс, які папулярызуе нашу гісторыю, амаль вярнуўся да нармальнага рытму выхаду.

Ведаю сваіх продкаў да пятага калена. Усе прыстойныя людзі. Больш далёкія продкі — сяляне, святары, рамеснікі. Дзед сваімі рукамі, разам з дзецьмі, расчысціў і ўпарадкаваў купленны цяжкім мазалём надзел зямлі на Мярлінскіх балотах у Століншчыне (але прыйшла савецкая ўлада і забрала яго пад гіганцкі вайсковы палігон). Бацька вывучыўся, стаў вучоным-эканамістам. Яны з маёй маці-настаўніцай доўга працавалі ў Брэсце, дзе нарадзіўся я. Так што карані мае глыбока ў тутэйшай зямлі, і ніякая віхура мяне адсюль, з Беларусі, не выдзьме.

**Пытанні задавала Алена СВЕРЖАНЬ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Непакой

*Біццё нераўнадушнага сэрца чуецца ў паэтычных радках Павала Зьмітрука. Ён упэўнены: толькі гранічная шчырасць, эмацыйнае ўзрушэнне даюць права брацца за пяро. Крыніца ягонага натхнення — Айчына, прыгажосць, каханне. І — непакой за лёс усяго, што дорага, без чаго немагчыма жыць.*

*У хуткім часе выйдзе ў свет кніга вершаў паэта, якая мае назву "Хінжа". А зараз прапануем увазе чытачоў некалькі ягоных твораў.*

## *Павал ЗЬМІТРУК*



### Дождж

*У Айчыне сёння дождж — як назаўсёды,*
*Як быццам Госпад узжадаў заліць*
*За нешта знелюбёную прыроду,*
*Якую гэтак собіла стварыць.*

*Заліць недасканаласць чалавекаў,*
*Што зайздрасцю і страхам жывучы,*
*Не бачаць ні гаротніцтва калекаў,*
*Ні вечнай харасцвянасці жанчын, —*

*Такі народ мы — любаму дракрылы,*
*Мы будзем жыць, хай хоць пад сэрцам нож.*
*Ліе з нябёсаў, як з ірваных жылаў.*
*У Айчыне сёння дождж,*
*Надо-о-оўга дождж?*

### Народ

*Ён выжыў, дзе не ўмерці немагчыма,*
*І не сатлеў, дзе нельга не згарэць,*
*Адна ў яго, нібы душа, — Айчына,*
*Такая ж немінучая, як смерць.*

*Такая ж непазбежная, як Слова,*
*Што, каб параніць, выбера свой час...*
*І мой народ не выракаўся Мовы —*
*Яна, часамі, пакідае нас.*

*Пакіне, ды ўсё роўна, быццам косць,*
*Праз год, праз сто, а горла не міне,*
*Яна, як Бог, які ўсё роўна ёсць,*
*Усё роўна — верыш ты ў Яго ці не...*

*А нам баліць прызнацца і прызнаць,*
*Што не заўжды Народам мусім звацца...*
*А як няма нам сілаў бунтаваць,*
*Адкуль жа столькі сілаў — пакарацца?*

### Каханне

*...І няма ў мяне дня — толькі ноч,*
*Дзе адзін я і болей нікога,*
*Як блукар каля існай дарогі:*
*Не пазбудзься, не здрадзь і не збоч.*
*І няма ў мяне дня — толькі ноч.*

*Толькі там ты пачуешся — хто ты,*
*Кім ты быў і навошта ты быў...*
*І пад ніцай вярбою самоты*
*Ляжа цень найспатольнай журбы.*

*Найадзіным у свеце адхланнем,*
*Цэлы век хоць спажыўшы ў дарогах,*
*Будзе толькі — як зведаў — Каханне.*
*Больш нічога...*

### На мяжы

*На мяжы навальніцы, якая*
*Як заўчасная дыхае смерць,*
*Я падбітага птаха шукаю,*
*Што стаміўся балюча ляцець.*

*Я шукаю... бядую... гарую...*
*Мне б дайсці... і знайсці, каб паспець*
*Напаўзмерлую песню, якую*
*Без мяне анікому не пець.*

*...Гэты птах — ён адно не канае,*
*Бо бязвыйсна чакае мяне, —*
*Каб ажыць, каб узлецець, каб днець*
*На мяжы навальніцы, якая...*

### Сёння

*І прышлыя і тыя, хто тут вырас, —*
*Адзіны рок для ўсіх, адзіны лёс.*
*Як чарадзе — адзін вялікі выпас,*
*І з неба дождж — на ўсіх, і травы ў рост...*

*Для ўсіх зямля спагадная такая,*
*Прытул нашчадкам вечнага граху...*
*На ёй ніхто ўжо Бога не шукае, —*
*Навошта Бог, як верыш пастуху...*

### Самі!

*Жывеш не вечна, чалавек,*
*Перажыві ж у момант век!*
***Максім Багдановіч***

*...А не дайсці і выжыць век, —*
*Хай крые Божа...*
*Спажыў сцяжыну чалавек*
*Да раздарожжа.*
*Груган пракрумкаў: "Гэта — кроч*
*Няшчасцем сённім;*
*А гэта — ў шчасце, але збоч —*
*Там дальш прадонне..."*
*І міг жыцця — як сэнс жыцця,*
*Як крык з нябёсаў,*
*Ў дарожным кліне і працяг,*
*І кропка лёсу.*
*І дзве рукі, здалеўшы смыл*
*Не ўзнятых крылаў,*
*На дзве дарогі леглі ў пыл,*
*І сталі пылам.*
*І не спраўленых надзей*
*Задумнік хмарны, —*
*Паўстаў ён тварам ад людзей,*
*Каменным тварам.*
*А ў твар яму — пыл дзвюх дарог,*
*І стыгнуць грудзі.*
*Чаму ён іх абраць не змог, —*
*Не знаюць людзі.*
*Хадок падыдзе, мох кране —*
*І мовіць камень:*
*"Па гэтай — смерць, па гэтай — не.*
*А дальш — вы самі..."*

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Нищета в бывшем СССР

Детский фонд ООН ЮНИСЕФ заявил, что миллионы детей в Восточной Европе и Средней Азии живут в нищете.

В докладе, подготовленном исследовательским центром ЮНИСЕФ, говорится, что основные показатели благосостояния детей остаются на прежнем низком уровне, несмотря на рост экономики в этих регионах. Среди этих показателей — детская смертность и количество детей в детских домах и приютах.

В докладе ЮНИСЕФ приводятся данные о жизни детей в 27 странах Восточной Европы и Средней Азии. В некоторых из них, по сведениям авторов доклада, растет число детей, не посещающих школы. В девяти из этих стран 14 миллионов детей из 44 живут за чертой бедности. Многие их этих детей страдают от недоедания. Уровень смертности среди детей младше пяти лет в лучшем случае не повышается, а в некоторых странах реально растет. Не падает и число детей, содержащихся в приютах. По данным ЮНИСЕФ, многие из них стали инвалидами в результате долгих лет отсутствия медицинского ухода.

## Солдатские матери призывают к переговорам в Чечне

Союз комитетов солдатских матерей России предложил провести прямые переговоры с лидерами чеченских сепаратистов, чтобы положить конец войне в республике.

Обращение адресовано "командирам чеченских вооруженных формирований" и подписано тремя членами Координационного совета СКСМ Валентиной Мельниковой, Марией Федуловой и Натальей Жуковой. "Мы знаем страшную цену десятилетия вооруженного насилия в Чечне. Это — огромные и невосполнимые потери чеченского народа: сотни тысяч убитых, пропавших без вести, беженцев, руины на месте городов и сел. Это — гибель тысяч наших сыновей — солдат и офицеров. Это — сотни невинных жертв террора" — говорится в обращении. Солдатские матери говорят, что целое поколение молодых чеченцев и российских солдат искалечено опытом насилия и произвола.

Однако российский президент Владимир Путин отказывается вести переговоры с теми, кого он называет террористами. Вновь избранный президент чеченской республики Алу Алханов также отказался от переговоров с бывшим президентом Чечни и одним из лидеров сепаратистов Асланом Масхадовым, и призвал его извиниться перед своим народом и покинуть республику или сдаться российским властям.

## Microsoft залатала старые версии




Microsoft выпустила 10 новых исправлений для своих продуктов, сообщается в пресс-релизе корпорации. Семь из них устраняют критические дефекты, представляющие наибольшую опасность для пользователей. Недоработки в программах позволяли злоумышленникам получить доступ к компьютеру пользователя. Скачать обновления можно на сайте Microsoft.

## Теледебаты завершились поцелуями

*Рукопожатиями, похлопываниям по плечам и поцелуями членов семей президента США Джорджа Буша и претендента на высокий пост сенатора Джона Керри завершились последние теледебаты, прошедшие в государственном университета штата Аризона за 20 дней до президентских выборов.*

Однако в ходе самого полуторачасового обмена мнениями было довольно жарко. Керри заявил, что на Буше лежит ответственность за несправедливую войну в Ираке, за потерю рабочих мест в самих Соединенных Штатах и за то, что 5 миллионов американцев оказались за бортом системы здравоохранения. Президент на это ответил метафорой: "В американской политике есть основное русло, а вы сидите на самом левом его берегу".

Как отмечает агентство Ассошиэйтед пресс, на этот раз, в отличие от предыдущих дебатов, Буш вел себя вполне по-джентльменски, не хмурясь и не гримасничая во время выступлений своего противника. В числе горячо обсуждавшихся проблем были аборты, права сексуальных меньшинств, иммиграция, но первым вопросом была безопасность Америки.

## Хирурги восстановили лицо пациента

Хирурги провели, как утверждается, первую полную реконструкцию лица с применением цельного куска кожи. Как заявили медики на конференции американского Общества пластической хирургии, они использовали часть кожи со спины пациента, получившего тяжелые ожоги. Британские эксперты утверждают, что новая технология дает надежды другим пациентам с сильными ожогами.

Команда хирургов больницы Хироо в Токио осуществила операцию 54-летнему мужчине с ожогами от загоревшегося бензина, серьезно повредившими его лицо, шею, грудь и руки. Вначале ему наложили несколько небольших кусочков кожи, чтобы закрыть раны, и сделали трахеотомию, чтобы он мог дышать. Однако он частично потерял свой нос, и его уши сильно пострадали.

В ходе эксперимента врачи "растянули" кожу на спине пациента с применением растяжителя тканей — специальный силиконовый пузырь, помещаемый под кожу и наполняемый соленой водой, который заставляет кожу растягиваться и расти. Так кожа росла шесть месяцев, и у нее были свои собственные пути снабжения кровью.

## Победители лотереи Powerball отказались от 97 миллионов долларов

*Группа сотрудников американской издательской компании Sussex Printing Corp. (штат Делавар), которая выиграла главный приз (джекпот) лотереи Powerball, собирается получить его сразу целиком, сообщается на сайте телеканала CNN. Таким образом, 33 человека отказались от другого варианта получения вознаграждения — ежегодными выплатами в течение 29 лет.*

33 человека, которые купили выигрышный билет, теперь получат на всех 117 миллионов долларов. После уплаты всех налогов на каждого придется примерно по 2,2 миллиона. Выигрыш составил 214,7 миллиона — именно такую сумму они получили бы с рассрочкой в 29 лет. По словам продавца магазина, в котором была продана партия билетов, один из которых оказался выигрышным, группа работников издательства потратила на них 165 долларов.

## Как «обезьяны и клоуны» ограбили фирму

Бразильская полиция охотится на группу клоунов и обезьян, вернее, на хорошо организованную банду, которая ограбила контору транспортной компании и бежала с 4,7 миллиона реалов (около 1,6 миллиона долларов США).

Дюжина мужчин в смешных масках пробралась в туалет фирмы через заранее прокопанный туннель длиной в 120 метров, ведущий от одного из домов неподалеку. Характерный факт: эта транспортная компания — Nordeste Transbank из Сан-Паулу — входит в структуру одного из крупнейших бразильских концернов, занимающихся... обеспечением безопасности. Эта фирма перевозит наличность банков, государственной нефтяной компании и почтовой службы.

Вечером в конторе находились 75 сотрудников. Они занимались раскладыванием купюр по стопкам для банкоматов. Но тут пришли грабители с веселыми масками на лицах и более чем серьезным огнестрельным оружием в руках и приказали набить деньгами сумки, а затем скрылись в том же самодельном туннеле.

# Фотовзгляд



*Британский активист Ллойд Скотт на этот раз устраивает благотворительный заезд по Австралии, переодевшись в Шерлока Холмса.*



*Афганские чиновники начали подсчет голосов, отданных на первых демократических президентских выборах.*

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## Ненастоящие Нобели

*Отец и сын Фрэнк и Дональд Смит разработали прическу, при которой лысина прикрывается оставшимися у мужчины волосами. Секрет заключается в том, что остаток волосяного покрова разделяется на три части, и затем они аккуратно укладываются одна на другую.*

В 1975 году они запатентовали прическу для лысеющих мужчин, а в этом году получили ненастоящую Нобелевскую премию — Ig Nobel. Организаторы этой ежегодной церемонии говорят, что Ig Nobel призваны не только отмечать необычные достижения и открытия, но и пробуждать интерес к науке, медицине и новым технологиям. В этом году Ig Nobel вручались в Гарвардском университете лауреатами настоящей Нобелевской премии.

Другим лауреатом ненастоящих Нобелей стала Джилиан Кларк за изучение "правила пяти секунд". Согласно этому правилу, если еда падает на пол и лежит там менее пяти секунд, ее можно поднять и съесть без какого-либо риска для здоровья. Благодаря "научному подвигу" Кларк мы теперь знаем, что люди с большей готовностью поднимают с пола и едят сладкое, чем овощи. Стивен Стак и Джеймс Гандлах удостоились награды за изучение того, как музыка кантри может привести к самоубийству.

## Необычный пикник

*Повара Южной Африки превратили выставку насекомых в одном из университетов Йоханесбурга в массовое застолье, сообщает телекомпания НТВ.*

Основные блюда — термиты в шоколаде, червяки в чесночном соусе и жареные хрустящие жуки. Попробовать эти чудеса кулинарии могли все желающие. Недостатка в смелых людях с крепкими желудками не наблюдалось.

Для тех, на кого жареные и вареные насекомые в тарелке наводят ужас, рядом дежурили медики. Они научно объясняли, что это полезная, вкусная и питательная пища.

ЗАКУЛИСЬЕ

# Нарисованная любовь,

## *или Почему Михаилу Финбергу не удалось «разогреть» публику, пришедшую на бесплатный гала-концерт*



Позавчера в столичном Дворце спорта состоялась запись гала-концерта "За Беларусь!", который, по замыслу организаторов, в том числе Общенационального телевидения, Министерства культуры Беларуси и Мингорисполкома, стал акцией *"в поддержку республиканского референдума"*. Так во всяком случае заявили во вступительном слове ведущие концерта **Егор Хрусталев** и дикторы ОНТ **Калина Вардомская, Ольга Полякова и Александр Аверков.** Два огромных телемонитора, светящихся зелено-красными тонами, призывали зрителей проголосовать в будущее воскресенье "за Беларусь!", не раздражая присутствующих конкретным содержанием вопроса, вынесенного на голосование на референдуме. Телеверсию концерта, кстати, можно будет увидеть на телеканале ОНТ в субботу, 16 октября, начиная с 19.00.

Как и "положено", начало мероприятия задержалось на 15 минут. Стоит отметить, что во Дворце спорта был аншлаг — концерт-то благотворительный. Вот только сомнительно, что звезды российской эстрады приехали в Минск работать "за бесплатно". Присутствующим в зале раздавали красно-зеленые флажки, но брали их не все...

Что до выступления артистов, то начинали концерт отечественные звезды. Молодые белорусские исполнители разогревали публику перед выступлением более раскрученных исполнителей. Некоторые зрители откровенно скучали... Например, девушки, которые сидели рядом с нами, забавлялись тем, что вычеркивали из списков выступающих тех, кто уже отпел и отплясал. Кстати, в самом списке были и забавные неточности. Так, певца Мансура Ташматова, который приехал к нам из солнечного Узбекистана, организаторы концерта ошибочно представили Мансурой Ташматовой. Певец, которому едва не сменили пол, тем не менее отпел по-честному, то есть без фонограммы.

Единого порыва чувств по отношению к будущему референдуму в зале не наблюдалось, но даже особо рьяные зрители (предположительно, штатные активисты БРСМ), которые время от времени кричали с мест "Беларусь! Беларусь!" (ейбогу, как на стадионе), не смогли завести зал. Пробовал это сделать и художественный руководитель концерта Михаил Финберг. Довольно часто, отворачиваясь от оркестра, он жестами призывал зрителей активнее поддерживать артистов, заигрывал с исполнителями. Но тщетно... Тогда Михаил Яковлевич, видимо, решил пойти на крайние меры и напомнить "неблагодарным" любителям музыки, для чего же они, собственно, собрались. Финберг прокричал в зал, как нам показалось, несколько прогнув шею: *"Я люблю... президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко, который столько сделал и для культуры, и для спорта. Я призываю всех в этом зале сказать "да" на референдуме".*

Но зал, как ни странно, громоподобными овациями инициативному дирижеру не ответил. Были слышны лишь жидкие аплодисменты... Сразу вспомнилось интервью мэтра "Народной воле" в далеком 1999 году, в котором он, отвечая на вопрос, должен ли деятель искусства, заниматься политикой, не моргнув глазом ответил: *"Я политикой никогда не занимался и заниматься не собираюсь. Моя единственная политика — это любовь к моей Родине. Я имею в виду Беларусь. Любовь к белорусской национальной музыке, песне. Я фанат всего этого".*

Видимо, в мировоззрении Михаила Яковлевича за последние годы резко поменялись акценты: раздавая многочисленные комментарии и интервью, он не забывает поведать о своей "чисто мужской любви". Вспомнились в этой связи и чертовски точные строки Игоря Губермана:

*Чувствуя нутром, не глядя в лица,*
*Пряча отношение свое,*
*Власть боится тех, кто не боится,*
*И не любит любящих ее.*

Так что, по нашему глубочайшему убеждению, музыканту Финбергу добиться взаимности от объекта его страсти на К. Маркса, 38 будет крайне проблематично. И его любовь скорее всего останется безответной. Прогибайся или не прогибайся, кричи на весь зал или не кричи.

...Покидали Дворец спорта уже где-то ближе к полуночи мы с одной мыслью: несмотря на аншлаг и призывы "правильно" проголосовать на референдуме, смысл и содержание очередной широкомасштабной пиар-акции можно передать словами песни, которую в тот вечер спел украинский исполнитель Лери Винн, — "Нарисованная любовь".

Любовь-то, конечно, нарисовать можно, но вот можно ли заставить полюбить по-настоящему главного героя референдума — это уже большой вопрос...

**Виталий ГАРБУЗОВ, Александр СИЛИЧ.**

Народная Воля
15 КАСТРЫЧНІКА 2004 г.

*Эти снимки уже принадлежат истории.*
*Строки, написанные известным журналистом Юрием Ростом, свежие.*
*Вглядитесь, уважаемые читатели, в эти фотографии.*
*Задумайтесь, дорогие друзья, над словами, адресованными нам, современникам.*
*Тема, которую в Беларуси официальная пропаганда обходит стороной.*
*Тема, которая для Беларуси является жгучей, если не сказать больше — кровоточащей.*

# Две фотографии о достоинстве

Достоинство — стоимость жизни, а не ее цена. Достоинство нельзя купить и бессмысленно продавать. Торг не просто уничтожает достоинство, но свидетельствует, что ты им и не обладал.

Достоинство — не награда за поступок, а реальная среда твоего существования. Его невозможно отобрать.

Покушение на него силой и властью унижает того, кто покушается, и свидетельствует о слабости насильников.

Не о них речь, но, бывает, ночью, когда проснешься, навязчивая мысль прилепится к тебе: о несделанном или сделанном неточно, или тебя обидели, а ты не ответил, или ты обидел и не попросил прощения, или отважился на поступок, а не совершил его... и теперь повторяешь, повторяешь, как надо, как мог бы и как хотел. Словно уверенность (или, напротив, самоуверенность) вдруг покинула тебя, и ты внезапно оценил свое место и положение вещей вокруг тебя, и знаешь, как будет дальше, и уговариваешь свой мир и тот, что вокруг, почти одинаковыми словами-заклинаниями "так верно, так верно".

А как верно?

И вот щелкаешь затвором разума, пытаясь отшелушить ненужное, неважное, пустое, мертвое, и не находишь точные образы необъявленного или не можешь их узнать.

Между тем вот они:

— один выходит из людей и под прицелом и ровно идет в ад, чтобы вывести из него детей и женщин, думая о стоимости жизни или забыв о ней, а только о том, что должен совершить попытку, которую потом мы, всего лишь сочувствующие, назовем поступком. И выводит. Оплачивая мотив поведения спасенными жизнями или (не дай Бог) утраченной своей;

— другой ночью, тихо, "на мягких лапах" приезжает на дымящееся побоище, предотвратить которое не умел или не хотел, и, держа под прицелом людей, поправляет одеяльце у раненого ребенка, словно ленту на венке, возложенном к памятнику от его имени. А потом перед объективом стоит в церкви, думая, сколь повысилась, понизилась или сохранилась его цена на политическом торжище.

Один совершил намерение по определенному им самим долгу.

Другой намерений не проявил, хотя долг ему определен.

Один сохранил достоинство.

Другой — нет.

Это всего лишь образы. Но что наша жизнь без них?

Чувств надобно достигать. Нельзя заставить любить, доверять и верить. Разве что уважать.

"Он уважать себя заставил..." — это значит ушел из нашей жизни. Сам.

Среди зримых проявлений три изображения достоинства в трудные минуты выбора поведения являются мне.

Одно — телевизионное, хоть и хорошо вам знакомо, но щадяще забыто: Андрей Дмитриевич Сахаров, стоящий на трибуне съезда перед потерявшей человеческий облик, расстреливающей бранью толпой и продолжающий с выключенными микрофонами свою так необходимую нам и так не понимаемую нами прямую речь.

Два других вряд ли вам известны. Это фотографии неизвестного бойца сопротивления из Нормандии, улыбающегося перед дулами фашистских винтовок, и мексиканского борца за свободу начала прошлого века капитана Фортуно Сарано перед расстрелом...

Кому говорил Сахаров?

Тому, кто все же слышал его в зале и в стране и кто сегодня продолжает слышать, видеть и думать.

Кому улыбался нормандец?

Может, тому, кто целился мимо. (Я мечтаю, что в него выстрелили не все, и надеюсь на того, кто не стрелял.)

И на кого смотрит мексиканец?

Не на нас ли?

Храни Господь память о капитане Фортуно Сарано, о неведомом нормандце и других людях, убитых режимами зла и безразличия или преданных собственными государствами, толпами и правителями, унизившими себя покушением на достоинство мужчин, женщин и детей, детей, детей.

Оплачивающие чужими жизнями попытку пребывать в памяти времени уйдут неузнанные и будут, как песком, занесены хламом своих достижений. А этот капитан и другие, потерявшие жизнь, но не лицо, будут стоять с улыбкой века и, пусть иногда в бессоннице, являться людям, желающим жить достойно и мучающим себя почти одинаковыми словами-заклинаниями: "так верно, так верно...".

**Юрий РОСТ.**
*("НГ".)*

РАЗОБЛАЧЕНИЕ

# Трюкачество

*Вероятно, многие читатели "Народной воли" смотрели в минувший понедельник, 11 октября, по каналу ОНТ, который в народе метко окрестили телемутантом, очередной выпуск ток-шоу "Выбор", посвященный предстоящим выборам в парламент и референдуму. Событие, я имею в виду передачу, на первый взгляд не такое уж примечательное. Однако оно заслуживает того, чтобы уделить ему внимание. По двум причинам.*

**Первая.** В передаче принимали участие представители демократических сил — политических партий и общественных организаций. Но только по отдельным репликам участников, выступавших "правильно" и ссылавшихся при этом на присутствующих оппонентов власти, можно было догадаться, что последним тоже предоставляли слово. Но оно банально в телеэфир не попало. Почему, объяснять не надо. Представители демократических сил нужны были для этого рупора официальной белорусской пропаганды в роли своего рода декорации, указывающей на то, что мы живем во вполне демократической стране. Поэтому рука цензора, что уже стало привычным и что затем подтвердили участники этого шоу, просто вырезала острые выступления, оставив телезрителям привычную идеологическую жвачку о безоговорочной поддержке подавляющим большинством различных слоев общества идеи референдума, которой пичкали народ в очередной раз.

**Вторая** и, пожалуй, главная причина. Смотревшие передачу наверняка обратили внимание на результаты голосования в процессе ее по поводу выносимых на референдум вопросов: "за" — 72 процента, против — 28. Наверняка многие с сомнением отнеслись к порядку этих цифр. И имели для этого все основания.

Один мой знакомый не поленился вооружиться калькулятором и раз шесть в течение ток-шоу подсчитывал результаты голосования. Они получились более чем любопытными. Оказалось, что во всех шести случаях соотношение процента голосовавших — 72:28 — выдерживалось неукоснительно! Более того, в строго такой же пропорции выдерживалось всякий раз и соотношение проголосовавших в промежутках между замерами! Картина получилась просто фантастическая.

Можно, конечно, принять на веру версию, что десятки тысяч наших соотечественников по всей стране — от Бреста до Дубровно и от Ошмян до Гомеля — по неким необъяснимым телепатическим законам (может, включился в дело некий великий маг и ввел на несколько часов в состояние гипноза всю страну) выстроились в точнейшую до миллиметра очередь и делали выверенные до сотых долей секунды синхронизированные на молекулярном уровне между противниками и сторонниками референдума звонки. Но мне все-таки кажется куда более правдоподобной другая версия: роль этой не объяснимой нормальным человеческим восприятием телепатии вполне успешно сыграл компьютер, тоже, кстати, чудо природы, запрограммированный на требуемое, вожделенное для белорусских властей, соотношение голосов. Об этом косвенно говорят многочисленные свидетельства неудачных попыток граждан дозвониться, чтобы проголосовать против референдума. Как видим, техника не подвела, но при этом выдала трюкачей с головой.

Обычно в таких случаях в конце следуют рассуждения на темы морали. Я же отступлю от общепринятого правила. Читать мораль для людей, давно сделавших свой "Выбор" в пользу отсутствия всяких моральных ограничений, — занятие пустое и бессмысленное. Скажем просто: их заслуги в превращении белорусского ТВ в источник оболванивания, лжи, обмана и трюкачества будут оценены белорусским народом по достоинству. И весьма скоро.

**Александр ЯРОШУК,**
**председатель оргкомитета Гражданского комитета защиты Конституции, председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов.**

# Чайнворд

1.Агародная расліна, якая скарыстоўваецца ў ежу (агуркі, цыбуля, буракі і г.д.). 2.Калючая садовая кустовая расліна з кісла-салодкімі буйнымі ягадамі. 3.Тое, што і памідор. 4.Дрэва сямейства вярбовых. 5.Пладовае дрэва сямейства ружакветкавых з ядомымі круглымі пладамі. 6.Белы клён. 7.Працаўнік. 8.Баравік, які вырастае ў час каласавання жыта. 9.Сцябло, на якім размешчана кветка. 10.Ідэалістычнае філасофскае вучэнне, якое адмаўляе магчымасці пазнання аб'ектыўнага свету і яго заканамернасцей. 11.Беларускі савецкі пісьменнік, аўтар аповесці "Палескія рабінзоны". 12.Салодкія яблыкі. 13.Стук, шум ад udараў ног. 14.Асноўная сельгасмашына. 15.Прадмет, які мае разгалінаванне ў выглядзе рагоў. 16.Маленькая круглая шапачка без аколыша. 17.Комплекс навук аб апрацоўцы сельскагаспадарчых культур. 18.Маршал Савецкага Саюза, ураджэнец вёскі Зайцава, што на Магілёўшчыне. 19.Тое, што і іголкатэрапія. 20.Раннехрысціянскі твор, які расказвае пра Ісуса Хрыста. 21.Паляўнічы-прафесіянал. 22.Бацькаўшчына. 23.Паэма А.Куляшова. 24.Беларускі народны танец. 25.Класік беларускай літаратуры. 26.Беларускі часопіс для жанчын. 27.Круглы плод садовага дрэва. 28.Гл. у цэнтр чайворда. 29.Спецыяліст па аграноміі. 30.Горад Беларусі, які больш за ўсіх дапамагае сельгаспадарцы і больш за ўсіх спажывае яе прадуктаў. 31.Акультураны сазан. 32.Пласкадоннае судна для пераправы цераз раку людзей, грузаў. 33.Вядомы дзяржаўны і палітычны дзеяч, які многа часу ўдзяляў і сельскай гаспадарцы, Герой Савецкага Саюза і Герой Сацыялістычнай Працы.

**Склаў Уладзімір ГОЛУБ.**

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №189

**Па гарызанталі:** 3.Ромб. 6.Трыо. 8.Граніт. 11.Корань. 15.Пыж. 16.Зуб. 18.Кампраміс. 19.Каста. 20.Крысо. 23.Гегемонія. 25.Лёс. 27.Сыр. 29.Сняток. 31.Батыст. 32.Румб. 34.Арфа.

**Па вертыкалі:** 1.Дрэнаж. 2.Вобраз. 4.Мат. 7.Рак. 9.Рапс. 10.Кварц. 12.Неба. 13.Гематаген. 14.Памяранец. 21.Смала. 22.Млын. 24.Брас. 26.Сатыра. 27.Сатрап. 30.Кум. 31.Бор.

**Па дугах:** 2.Вуаль. 5.Банкрут. 8.Голад. 14.Плюс. 17.Сарказм. 18.Круг. 23.Гімн. 24.Балонка. 28.Цемя. 29.Скіба. 33.Баланда. 35.Прытч.



SOS!

# Спартсмен, які паклаў здароўе, павінен быць абаронены

*Днямі міністр спорту і турызму нашай краіны Юрый Сівакоў ладзіў сустрэчу з журналістамі. Гэта была не прэс-канферэнцыя, а, як выказаўся сам Сівакоў, дзелавая сустрэча. Прычым Юрый Леанідавіч абяцаў адказаць на ўсе без выключэння пытанні. Для гэтага спатрэбілася крыху больш за дзве гадзіны.*

Ва ўступным слове Сівакоў адзначыў, што, друкуючы толькі станоўчыя матэрыялы, журналісты наносяць шкоду агульнай справе: *"Праблем у беларускім спорце зараз дастаткова, іх больш чым хацелася б. Вы павінны расказваць пра гэта, як гэта зрабіў Алесь Сівы ў суботнім нумары "Народнай волі"* (Сівакоў меў на ўвазе матэрыял пра барца Дзмітрыя Дзябелку, у якога вялікія праблемы са здароўем — **Аўт**).

*Маючы двухгадовы стаж работы на пасадзе міністра спорту, вопытам гэта пакуль назваць не магу, скажу, што адчуваю сябе, як у казцы, — чым далей, тым жудасней. Чым больш спрабуеш раскапаць нейкія праблемы, тым большую занепакоенасць адчуваеш".*

Спадзяёмся, што міністру спорту ўдасца справіцца з большасцю праблем у спартыўнай галіне, таму аўтар гэтых радкоў проста не мог не запытацца ў Сівакова, што канкрэтна ўжо зроблена для Дзмітрыя Дзябелкі з боку Мінспорту Беларусі. Вось што адказаў Юрый Леанідавіч: *"Пакуль, акрамя сустрэчы Дзмітрыя з маім намеснікам Галінай Забур'янавай, мы нічым не дапамаглі, бо публікацыя выйшла толькі ў суботу. У прынцыпе, я чуў прозвішча Дзябелка, але гэтай праблемы не ведаў. Але я думаю, што пасля сённяшняй размовы павінны задумацца і ў Федэрацыі, і я ўжо паставіў адпаведную задачу ва ўпраўленні спорту гэтым пытаннем займацца. Дарэчы, я не думаю, што Аляксандру Мядзведзю дадасць аўтарытэту гэтая нявырашаная праблема. Ён павінен адрэагаваць на гэтую сітуацыю і папрасіць прабачэння ў Дзмітрыя і знайсці не толькі гэтыя 10.000 долараў, але і тую клініку, і патрэбны метад правядзення аперацыі".*

Дзеля таго, каб спартсмен, які паклаў здароўе, выступаючы за Беларусь, не застаўся ў бядзе, Юрый Сівакоў прапануе стварыць нешта накшталт прафсаюза пры кожнай федэрацыі, які б абараняў спартсмена: *"Нашы федэрацыі — гэта тыя ж прафсаюзы. Праўда, гэтыя арганізацыі ў нас носяць нейкі віртуальны характар. Для каго яны створаны? У маім разуменні, роля федэрацыі ў тым, каб забяспечыць не толькі сацыяльныя, але і ўсе астатнія аспекты жыццядзейнасці спартсменаў. Трэба сфарміраваць грашовы фонд для падтрымкі спартсменаў за кошт членскіх узносаў. І да таго ж мы не бяром падаткаў з прызавых, якія выплачваюцца спартсменам за прызавыя месцы на чэмпіянатах свету, Еўропы і на Алімпіядах. З гэтага і павінен фарміравацца фонд дапамогі спартсменам. Каб спартсмен ведаў, што, калі яму спатрэбіцца 10.000 долараў на аперацыю, федэрацыя прыме адпаведнае рашэнне і выдаткуе гэтыя сродкі".*

Залатыя словы, Юрый Леанідавіч. Толькі пакуль гэтыя фонды пры федэрацыях будуць створаны, пройдзе дастаткова часу, а дапамога Дзмітрыю Дзябелку патрэбна **ЗАРАЗ! АДКЛАДВАЦЬ НЕЛЬГА!!!**

Журналіст "Народнай волі" патэлефанаваў старшыні Федэрацыі барацьбы **Аляксандру Мядзведзю** і задаў пытанне: "Як федэрацыя будзе дапамагаць Дзмітрыю Дзябелку?". Вось што адказаў Аляксандр Васільевіч: *"Да мяне ніхто не звяртаўся. І ўвогуле, Сівага не туды панесла ў той публікацыі. Я ўвогуле не бачыў Дзябелку ў аэрапорце, мне было не да гэтага..."*

Вось так, Юрый Леанідавіч. А вы гаворыце пра аўтарытэт... Няўжо славуты барэц-асілак Аляксандр Мядзведзь не разумее, што не мае абсалютна ніякага значэння, бачыў ён Дзіму ў аэрапорце ці не, — не істотна. Тут важна іншае: чалавек у бядзе! Чалавек, які праслаўляў Беларусь на спартыўных арэнах, пакуль хапала здароўя. А зараз Дзмітрый натknуўся на сцяну раўнадушша і стаў нікому не патрэбным...

Звяртаемся да ўсіх, хто можа дапамагчы. Людзі, не будзьце раўнадушнымі, бо раўнадушша — гэта як злачынства...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

# 15
кастрычнік

**ПЯТНІЦА**
Усх. 7.38 Зах. 18.13
Даўж. дня 10.35
Маладзік
14 кастрычніка

**80 гадоў** з дня нараджэння М.М. Якуніна (1924—1985), беларускага тэатральнага мастака

**80 гадоў** з дня нараджэння М.Р. Солапава, беларускага баяніста, педагога, дзеяча самадзейнага мастацтва, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь

ЧУЛІ?

## Раёнаў у сталіцы стане менш

Генеральным планам Мінска прадугледжана змяненне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу сталіцы і межаў існуючых дзевяці раёнаў.

Як паведміў галоўны архітэктар сталіцы Руслан Белагорцаў, зараз Цэнтральны раён уключае ў сябе толькі частку геаграфічнага цэнтра. Паводле генплану, да 2030 года будзе ўтвораны новы Цэнтральны раён, а астатняя частка горада падзелена на шэсць сектараў, якія ўбяруць у сябе далучаныя тэрыторыі за Мінскай кальцавой аўтадарогай.

"Гэта будзе больш разумнае рашэнне, а памяншэнне з дзевяці да сямі раёнаў дазволіць скараціць шмат чыноўнікаў", — даў характарыстыку запланаванаму змяненню Р.Белагорцаў.

Ён таксама зазначыў, што ў генплане намечаны пераход на больш камфортны тып жылля ў Мінску, што азначае акцэнтаванне будаўніцтва не на 14—16-павярховых дамах, а на шчыльную 4—6-павярховую квартальную забудову.

**Лавінія АРЭШКА.**

## У Мінску адкрылася выстава жывапісу і скульптуры Алеся Шатэрніка

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрылася выстава жывапісу і скульптуры вядомага беларускага мастака і паэта Алеся Шатэрніка "Фарбы восені".

У экспазіцыі прадстаўлена больш за 50 твораў. Сярод іх — пейзажны жывапіс, у тым ліку палотны, напісаныя падчас пленэру, прысвечанага 80-годдзю народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, які адбыўся гэтым летам на яго радзіме ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Сярод твораў скульптуры — работы, прысвечаныя нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай, вялікаму князю Вялікага княства Літоўскага Вітаўту, класіку нацыянальнай літаратуры М.Багдановічу, філосафу, мастаку і вандроўніку Язэпу Драздовічу, беларускаму музыканту Эдзі Рознеру, а таксама сябрам А.Шатэрніка — майстрам нацыянальнай культуры Яўгену Куліку і Алесю Марачкіну

**Марат ГАРАВЫ.**

## Пятница, 15 октября

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 19.05** "В мире моторов".
**09.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**10.05** "Сфера интересов". Экономическая программа.
**10.30 "Терион".** Сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые"** Сериал.
**12.10 "Свадьба в Малиновке".** Комедия.
**13.45** "Приключения точки и запятой". Мультфильм.
**14.05** "Время кино".
**14.45** Видеофильм АТН.
**15.15** "Марсупилами-2". Мультсериал.
**16.00** "5х5".
**17.05** "Люди встречаются, люди влюбляются...".
**19.10** "Зона Икс".
**19.25 "Двое на острове слез".** Мелодрама.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Портреты современников". Видеофильм АТН.
**22.00** "Жемчужины Беларуси". Видеофильм.
**23.05 "Даже не думай".** Комедия.

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 00.05** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Клон".** Сериал.
**10.35** "Дисней-клуб".
**14.50 "Женщины в любви".** Сериал.
**15.50** "Дом". Реалити-шоу.
**16.35** "Фабрика звезд".
**17.00** "Пять вечеров".
**18.15** "Пан или пропал".
**18.45** "Поле чудес".
**20.00** "Время".
**21.00** "Без срока давности".
**21.30, 00.20** "Народный артист".
**22.35** "Что? Где? Когда?"

### РОССИЯ

**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.40** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Мусульмане".
**11.00** "Вся Россия".
**11.15** "Городок". Дайджест.
**11.45** "В поисках приключений".
**16.10 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**17.40** "Земля под белыми крыльями". Видеофильм.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**19.55** "Юрмалина-2004". Фестиваль телевизионных юмористических программ.
**21.45 "Дорога".** Криминальная драма.
**23.40 "Мыс страха".** Триллер.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Росчерк времени".
**08.20** Телеканал "Культура" представляет. "Линия жизни". Саксофонист Алексей Козлов.
**09.15** ("Культура") "Атланты. В поисках истины".
**09.45, 17.45 "Запомните меня такой".** Драма.
**10.50** "Женсовет".
**11.05, 18.55 "Долгая дорога в дюнах".** Сериал.
**11.55** "Обычный необычный день".
**12.35 "Через кладбище".** Киноповесть.
**14.10** "Мультиклуб".
**15.05** "Не зевай!".
**15.15** Мультфильмы.
**15.35** "Ералаш".
**15.55** "Из архивов БТ".
**16.45** "Ретро".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Линия жизни".
**21.55** ("Культура") "Кто в доме хозяин".

### НТВ

**09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**09.15** "Криминальная Россия".
**09.55** "Квартирный вопрос".
**10.55 "Граф Крестовский".** Худ.фильм.
**15.20** "Принцип домино".
**16.25** "Криминальная Россия".
**17.35** "Чрезвычайное происшествие".
**18.45 "В осаде-2".** Боевик.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40** "Совершенно секретно".
**22.35** "Русская армия в Ватикане".

### СТВ+RenTV

**06.30, 17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**07.50, 23.15** "Технология".
**08.10, 18.15** "Минск и минчане".
**08.25, 20.20** "Автопанорама".
**08.45** "Тема дня".
**09.00** "Таракан-робот". Мультсериал.
**09.25** Мультфильм.
**09.40 "Украсть Кэнди".** Боевик.
**11.10** "Пока горит свеча".
**11.40** "Ступени познания".
**12.00** "Час суда".
**12.50** "Театральный куфар-2004".
**13.00** "Пикник с...".
**13.50, 18.30 "Солдаты".** Сериал.
**14.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры. Потерянная галактика".** Сериал.
**15.15** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**15.40** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**16.05** "Щит Отечества-2004".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Дружная семейка".** Сериал.
**18.00** "Светская хроника".
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "У зеркала два лица".** Мелодрама.
**23.30** "Суверенная Беларусь".
**00.30** "Реактивный бокс".
**00.50, 02.50 "Любовник".** Мелодрама.

### 8-Й КАНАЛ

**07.00, 16.45 "Безымянная звезда".** Трагикомедия.
**08.10, 17.50** "Телемагазин".
**08.15 "Бетховен".** Комедия.
**09.40, 19.50 "Бригада".** Сериал.
**10.30 "Четыре пера".** Боевик.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Красавчик Джо".** Комедия.
**19.40** "Мобилизация".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**21.10 "Джеймс Бонд – агент 007".** Боевик.

### ТВ ЦЕНТР

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Темные воды".** Триллер.
**09.30** "Доходное место".
**09.40** "Европейские ворота России".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "А у нас во дворе...".
**11.50** "Денежный вопрос".
**12.05, 23.00** "Петровка,38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Криминальный кроссворд".** Сериал.
**14.30 "Неприрученная Амазонка".** Сериал.
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Без репетиций".
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00 "Перехват".** Приключения.
**21.40** "Народ хочет знать".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45 "Три цвета: красный".** Драма.
**01.25** "Мода non-stop".

### EUROSPORT

**06.15** Мотогонки. Гран-при Австралии.
**10.00** Супергонки по выходным.
**11.00, 23.30** Ралли. Этап чемпионата мира на Корсике.
**11.30, 13.00, 17.00, 19.30** Футбол. Кубок мира в Германии.
**14.00** Теннис. Турнир WTA "Кубок Кремля" в Москве.
**18.00** Теннис. Турнир ATP в Австрии.
**21.30** Самый сильный человек. Международные соревнования в Канаде.
**22.30, 00.00** Экстремальный спорт. Экстремальные игры-2004.
**00.30, 02.15** Новости "Евроспорта".
**00.45** Боевые единоборства. "Бойцовский клуб".
**01.15** Спидвей. Кубок мира в Англии.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк 14.10.2004 у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 210 экз. Заказ № 754.